БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# ЯНКА ЖУРБА

## РОДНАЕ

*Лірыка*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

# З РОДНЫХ КРЫНІЦ

Старэйшы беларускі пісьменнік Янка Журба пачаў сваю літаратурную дзейнасць за многа год да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і больш паўстагоддзя сціпла працаваў на ніве роднай літаратуры. Пад плённым уплывам перадавых рэвалюцыйных ідэй складваліся і фарміраваліся яго літаратурна-грамадскія і эстэтычныя погляды. Працягваючы і развіваючы традыцыі рускай і беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры ён у сваіх творах адстойваў мастацтва, якое абараняла інтарэсы народа, садзейнічала яго рэвалюцыйнаму выхаванню.

Літаратурная спадчына паэта не вельмі вялікая, але яна займае пачэснае месца ў гісторыі беларускай літаратуры, карыстаецца заслужанай любоўю ў шматлікіх савецкіх чытачоў. Журба выступаў з вершамі, апавяданнямі, нарысамі, артыкуламі і перакладамі твораў вядомых рускіх паэтаў.

Янка Журба (сапраўднае прозвішча Іван Якаўлевіч Івашын) нарадзіўся 18 красавіка (ст. ст.) 1881 года ў вёсцы Купіна Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Змалку ён спазнаў горыч паднявольнага жыцця, зведаў пакуты бадзяння ў пошуках кавалка хлеба. З бацькам ён хадзіў ад вёскі да вёскі, займаўся мулярскім рамяством, закладваў падмуркі пад хаты, тынкаваў іх, ставіў печы. Нягледзячы на беднасць, бацька ўсяляк падтрымліваў жаданне сына атрымаць адукацыю. Закончыўшы пачатковае, а потым двух-

класнае вучылішча, Журба ў 1898 годзе з вялікімі цяжкасцямі паступае ў Полацкую настаўніцкую семінарыю. Пасля паспяховага заканчэння яе ў 1902 годзе ён настаўнічаў у вясковых школах на Віцебшчыне, несучы народу асвету і культуру.

Аднак веды, набытыя ў семінарыі, не задавальнялі Я. Журбу, і ён у 1906 годзе паступае ў Глухаўскі настаўніцкі інстытут (Украіна). Тут ён паглыбляе свае веды па розных прадметах, зблізкаецца з рэвалюцыйна настроенымі студэнтамі, удзельнічае ў нелегальных гуртках. Усё гэта рабіла станоўчы ўплыў на агульнае развіццё паэта і на фарміраванне яго рэвалюцыйна-дэмакратычных поглядаў.

Пісаць вершы Я. Журба пачаў на рускай мове. Яшчэ будучы студэнтам Полацкай настаўніцкай семінарыі, ён у 1902 годзе выступіў з вершам, прысвечаным 50-годдзю з дня смерці М. В. Гогаля. Аднак сапраўднае творчае жыццё паэта пачалося значна пазней, калі ў газеце «Наша ніва» 16 ліпеня (ст. ст.) 1909 г. быў апублікаваны яго першы верш на беларускай мове «На берагах Дзвіны». Верш спадабаўся Янку Купалу. І ён з Вільні дасылае Журбе пісьмо і просіць яго прысланць звесткі пра сябе і новыя вершы. Крыху пазней яны сустрэліся ў рэдакцыі газеты «Наша ніва». Падтрымка Янкі Купалы — вядомага беларускага песняра — дапамагла пачынаючаму паэту знайсці дарогу ў літаратуру. З гэтага часу Журба пачынае друкавацца ў «Нашай ніве», а таксама ў часопісах «Маладая Беларусь» і «Лучынка».

Імперыялістычная вайна вымушае паэта эвакуіравацца ў Сімбірскую губерню (цяпер Ульянаўская вобласць), дзе ён настаўнічае. Тут жа ён сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю і адразу стаў на бок барацьбітоў за Савецкую ўладу і ўсе свае сілы

як настаўнік і паэт аддаваў служэнню новаму грамадству, Савецкай уладзе.

У 1921 годзе Я. Журба вярнууся на радзіму. Працаваў у навукова-педагагічнай камісіі Наркамасветы БССР, быў настаўнікам, інспектарам сацыяльнага выхавання, навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы АН БССР.

Свой першы невялікі зборнік вершаў «Заранкі» Я. Журба выдаў у 1924 годзе. У яго пераважна ўвайшлі творы, напісаныя ў дарэвалюцыйны час.

У 1934 годзе Я. Журба па стану здароўя (страта зроку) пакідае педагагічную работу, пераходзіць на пенсію і ў меру сваіх сіл працягвае займацца літаратурнай працай. Жыў ён у гэты час непадалёку ад Полацка, у вёсцы Ніжняя Баравая. Тут яго часта наведвалі сабраты па пяру, настаўнікі і студэнты. Яны знаёмілі паэта са сталічнымі навінамі, з літаратурным жыццём. Перад вайною Я. Журба падрыхтаваў да друку два зборнікі вершаў «Раніца» і «Шляхі перамогі». Але, на вялікі жаль, рукапісы кніжак загінулі ў час нямецкай акупацыі. У пасляваенныя гады выйшлі зборнікі: «Выбраныя творы» (1950), «Ясныя шляхі» і «Светлыя дні» (1959), «Вершы» (1970), кніжкі для дзяцей «Ластаўкі» (1950) і «Сонечная раніца» (1955). Зборнікі паэта былі цёпла сустрэты крытыкай і шматлікімі чытачамі.

Памёр Янка Журба 7 студзеня 1964 года.

Шчыра і самааддана служыў мастацкім словам Я. Журба працоўнаму народу, роднай краіне. У цэнтры дарэвалюцыйнай творчасці паэта, таксама як і пісьменнікаў — яго папярэднікаў, была беларуская вёска. У сваіх творах Журба дае трапныя, рэалістычныя замалёўкі цяжкага, беспрасветнага жыцця працоўнай вёскі ва ўмовах царызму, падкрэслівае супярэчнасці, якія існавалі ў тагачасным

грамадстве, праўдзіва паказвае простага чалавека, адзначаючы тыповыя рысы яго характару. Паэт выступае актыўным абаронцам працоўнага беларуса, яго чалавечай сацыяльнай і нацыянальнай годнасці. Ён балюча перажывае з прычыны таго, «што гібее ў вёсцы родны люд убогі», церпіць матэрыяльныя нястачы, беднасць, холад і голад.

Я. Журба не абмяжоўваўся паказам паднявольнага жыцця народных мас, ён часам узвышаўся да разумення класавай прыроды эксплуататараў, паказваў іх немінучую пагібель. Глыбокай верай у светлае будучае прасякнуты многія творы паэта. У вершы «Голас з вёскі», напісаным у 1913 годзе, тэма вызвалення народа і радзімы з-пад царска-памешчыцкага ладу гучыць выразна.

Ўжо досыць,— мы доўга цярпелі, маўчалі,
Узнімем галовы смялей!
Прыйшоў час змагацца за лепшую долю,
Каб стала жыццё нам вальней.
Змаганнем здабудзем і волю, і долю,
З'яднаўшыся ў краі шчыльней.
Здалеем тады цемнату і нядолю,
І сонца нам бліснe ясней!

Я. Журба горача любіў Беларусь, любіў працоўны народ. Дэмакратызмам і патрыятычнымі пачуццямі прасякнуты яго творы «Мая радзіма», «За айчыну», «Да роднай краіны». У адным з іх паэт заяўляе:

Я цвёрда, шчыра веру,
Я веру ўсёй душой,
Што ўстанеш ты з няволі,
Край родны, мілы мой.

(«Да роднай краіны»)

Вобраз радзімы і вобраз народа падаюцца ў арганічнай еднасці. З усёй сілай мастацкага абагульнення паказаны ў творах паэта «бедная старонка», «вёска лапцюжная» і «людцы ў згрызоце пакутнай». Журба быў гарачым прыхільнікам рэвалюцыйна-дэмакратычных поглядаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, пад іх уплывам стварыў ідэйна вострыя і па-мастацку паўнацэнныя творы. Голас паэта бадзёра гучаў у гады чорнай рэакцыі і царскага самаўладства. Якім бы непрыглядным і беспрасветным ні было дарэвалюцыйнае жыццё, як ні цяжка прыходзілася Я. Журбе, паэт ніколі не губляў веры і ўпэўненасці ў лепшую будучыню.

Прыродаапісальныя і інтымныя вершы займаюць істотнае месца ў дарэвалюцыйнай паэзіі Я. Журбы. У цёплых лірычных вершах «Мая рэчка», «Прыйшла вясна цудоўная», «Усход сонца» паэт з майстэрствам апісвае розныя з'явы прыроды, стварае ўдалыя вобразы лесу, лугу, рэчкі. Ён тонка перадае норавы і звычаі звяроў, птушак, гукі і пахі прыроды.

У інтымных вершах («У майскую раніцу», «Санет», «Каханне», «Мігацелі зоры ў цёмнай ночы...») тэма кахання і дружбы распрацоўваецца ў народна-рамантычным плане і ўспрымаецца як самае хвалюючае і ўзвышанае пачуццё, як краса і шчасце маладосці.

У сваёй дарэвалюцыйнай творчасці Я. Журба адлюстраваў у пэўнай меры жыццё розных класаў, раскрыў супярэчнасці, якія існавалі ў тагачасным грамадстве, паказаў сацыяльнае бяспраўе працоўнага сялянства, яго цяжкую працу і галечу, імкненне да новай светлай будучыні.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя здзейсніла мары паэта: працоўныя беларусы сталі гаспадарамі сваёй дзяржавы, сваёй зямлі. Рэ-

валюцыя абудзіла творчыя сілы народа, стварыла ўсе ўмовы для росквіту мастацкага таленту Я. Журбы. З першых дзён устанаўлення савецкай улады тэма Кастрычніка і сацыялістычнай працы народа, які спазнаў шчасце працаваць не на эксплуататараў, а на саміх сябе, на сваю дзяржаву, пачала займаць асноўнае месца ў творчасці паэта. Узнёсла і бадзёра складае паэт радасны гімн здабытай перамозе.

Цябе, Вялікі наш Кастрычнік, мы вітаем;
Хай ведае аб гэтым цэлы свет.
У гарадах шумлівых і ў калгасных вёсках,—
Усюды твой відаць чырвоны слаўны след.

(«Вялікі Кастрычнік»)

Горача, з сапраўдным запалам апявае Я. Журба Савецкую Беларусь, якая дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі стала вольнай савецкай рэспублікай, здабыла сваю дзяржаўнасць, самастойнасць і прыступіла да мірнага сацыялістычнага будаўніцтва.

Заблішчэў небасхіл
Бляскам сонечных дзён,
Над краінай не сцелюцца хмары.
Беларускі народ
Скінуў цяжкі свой сон;
Сталі явай адвечныя мары.

(«Беларусь савецкая»)

Камуністычнай партыі і Радзіме, братняму яднанню народаў нашай краіны, найбольш значным падзеям у яе жыцці прысвячае Журба свае лепшыя творы. Тут варта прыгадаць такія вершы, як «За камунізм, за мір», «Героям Арктыкі і Антарктыды», «Камуністам слава», «Не стрымаць, не спыніць нас сягоння» і многія іншыя, у якіх цёпла і сардэчна выказаны мары і думы сучаснікаў.

Я. Журба праўдзіва адлюстраваў шматграннае жыццё нашай краіны. Тэматыка яго творчасці надзвычай разнастайная. З вялікім натхненнем піша паэт аб радаснай і шчаслівай працы рабочых («Гудкі», «На заводзе», «Рабочаму»), раскрывае гістарычнае значэнне індустрыялізацыі і будаўніцтва сацыялізма.

У паэтычным арсенале Я. Журбы істотнае месца займаюць вершы, прысвечаныя тэме калгаснага жыцця («На калгаснай сенажаці», «Песня трактарыста», «Жніво», «Заможная восень» і інш.). У іх паэт гаворыць аб тых велічных пераўтварэннях, якія адбыліся ў жыцці вёскі.

Услаўляючы савецкую рэчаіснасць, Я. Журба разумеў, што аграмадныя поспехі, здабытыя беларускім народам у сацыялістычным будаўніцтве з'яўляюцца вынікам арганізуючай і накіроўваючай работы Камуністычнай партыі. З глыбокай удзячнасцю гаворыць паэт аб ажыццяўленні партыяй грандыёзнай праграмы пабудовы сацыялістычнага грамадства, яе няспынных клопатах, аб дабрабыце працоўных.

Слава мудрым камуністам,
Слава вам, будаўнікі!
Будуць услаўляць з натхненнем
Вас вякі.
(«Камуністам слава!»)

Пад жыватворным уплывам Камуністычнай партыі, якая накіроўвала разнастайную дзейнасць савецкага народа, Журба ўсё выразней усведамляў з'явы новага сацыялістычнага жыцця. У вершы «Моладзь» паэт услаўляе сацыялістычную радзіму, што адкрыла шырокія перспектывы для моладзі, стварыла ўсе ўмовы для яе творчай працы, для выяўлення імкненняў і здольнасцей.

У вершах Я. Журбы, прысвечаных Вялікаму Кастрычніку і сацыялістычнаму будаўніцтву, ярка праходзіць ідэя непарушнай дружбы народаў СССР, ідэя іх згуртаванасці і адзінства. У братняй дружбе народаў, у падтрымцы вялікага рускага народа бачыць паэт сілу і моц Радзімы.

Настойліва і паслядоўна раскрывае Журба сутнасць савецкай палітыкі міру і дружбы паміж народамі. Агрэсіўнай мілітарысцкай палітыцы капіталістычных краін ён проціпастаўляе сапраўдную міралюбівую палітыку, якая вынікае з самой прыроды сацыялізма і савецкага ўкладу жыцця.

Палымяны савецкі паэт Я. Журба кожным радком сваіх вершаў сцвярджаў перамогу новага над старым, вітаў кожны поспех беларускага народа ў яго барацьбе за пабудову сацыялізма, горача адгукаўся на ўсе выдатныя падзеі ў жыцці нашай краіны.

Значную частку сваіх вершаў Я. Журба прысвяціў дзецям. Як настаўнік ён добра ведаў і трапна раскрываў псіхалогію дзяцей, іх мары і імкненні. Вершы, прысвечаныя дзецям, «Летам», «Восень», «У школу», «Наша ёлка» і многія іншыя, належаць да лепшых твораў паэта. Яны выхоўваюць у нашых дзяцей палымяную любоў да сацыялістычнай Радзімы, павагу да працы, да калектыву. У творах Я. Журбы знайшлі адлюстраванне высакародныя пачуцці савецкіх людзей, іх любоў і аддапасць сацыялістычнай радзіме, глыбокая вера ў здзяйсненне вялікіх ідэй Камуністычнай партыі, братняя дружба народаў, росквіт сацыялістычнай Беларусі.

Прастата, дакладнасць мастацкіх сродкаў, народнасць складаюць характэрныя рысы лірычнай паэзіі Журбы.

**І. Жыдовіч**

# I

# *Песні смутку і змагання*

## ДА РОДНАЙ КРАІНЫ

Я цвёрда, шчыра веру,
Я веру ўсёй душой,
Што ўстанеш ты з няволі,
Край родны, мілы мой.
Табе, мой краю родны,
Жыццё ўсё аддаю,
Свае і песні-думы,
І ўсю любоў маю.
Ў табе мая уцеха,
Жыццё маё з табой,
Мая надзея й радасць,
Край родны, любы мой.
Я веру ўсёй душою,
Што вечна будзеш жыць,
Што ворагі ўсе згінуць,—
Нам сонца заблішчыць!

*1913*

## НАД ДЗВІНОЙ [1]

Імчыць шумліва свае хвалі
Рака Заходняя Дзвіна,
Нясе ваду далёка ў мора,
Паважна коціцца яна.

За хваляй хваля набягае
На шэры жвірысты пясок
І рассыпаецца з шуршаннем,
Нібы бурлівы ручаёк.

Увесь дзень ка́ні-рыбаловы
Галосяць, быццам на бяду;
А часам сумныя крыкунні
Ляцяць каменнем у ваду.

Шмат клопату ў крыклівых птушак:
Ім трэба рыбку тут схапіць.
Во бліснуў акунёк зялёны —
І ўцёк, каб далей вольна жыць.

Парой і ястраб зашнуруе:
Ён хоча птушку тут злавіць,
Над блонню з ніцымі кустамі,
Але ізноў удаль ляціць.

[1] У газеце «Наша ніва» друкаваўся пад назвай «На берагах Дзвіны».

Звіняць у небе песні птушак.
На беразе па-над Дзвіной,
Цяністы, стромкі і маўклівы,
    Бы ў зморы, бор стаіць сцяной.

Малюнак пышны вабіць вочы:
Наўкол прыгожасць і святло,
Прырода ўцехаю красуе,
    Бо лета яснае прыйшло.

*1909*

## ВОКЛІЧ

Гэй, упаднікі, шкада вас:
Ці не годзе вам стагнаць?
Не губіць жыццё нам трэба,
Час нам шчасце будаваць.

Ўсім нам знойдзецца тут праца:
Трэба паўшых нам узняць,
Трэба сонных разбудзіць нам...
Хутка ж!.. Час не марнаваць!

Кіньце нудныя вы енкі,
Жыва ў поле грамадой!
Як найболей пакажыце
Працы, шчырасці сваёй!

Нам не грозны перашкоды:
Грамада — вялікі гмах.
Закрасуюць нашы нівы
На працоўных на палях.

Годзе ж, годзе сумаваць вам,
Годзе дарам слёзы ліць!
Ёсць за што ў жыцці змагацца,
Ёсць у ім што палюбіць.

*1912*

## МАЯ РЭЧКА

Бруіцца празрыстая рэчка,
Хаваецца ў ніцых кустах.
Наўкол зіхаціць пазалота —
На рэчцы, на пожні, ў лістах.

Блішчыць мая рэчка і гоніць
Імклівыя хвалі свае.
Няспынныя спевы над ёю
Уторань успляскам яе.

Іду сенажаццю зялёнай.
Як хораша ўлетку ў палях!
Луг яркне квяцістым убраннем;
Люстраніцца рэчка ў кустах.

Я ў рэчцы... Імклівыя хвалі
Пяшчотна так лашчаць мяне.
За рэчкай блакітныя далі...
Як добра і радасна мне!

Цудоўных я сіл набяруся
Ад рэчкі любімай маёй,
Я моцна зліваюся з ёю,
А хвалі даюць мне спакой.

*1912*

## УСХОД СОНЦА

Ужо золак заззяў,
Святло льецца ў прастор.
І ачнуўся ад сну —
Ціха шэпчацца бор.

Як кудзеля, туман
Яшчэ вісне ў палях,
І струменіць-плыве
Ад лугоў свежы пах.

Загарэўся агнём
Край усходні нябёс,
І ляцяць на зямлю
Іскры сонечных кос.

І здаецца — ўвесь свет
Яркім сонцам сагрэт.
Сонцу рада зямля —
Шле усмешку-прывет.

Прашумеў вецярок
Па кустах лазняка —
І іскрыцца-гарыць
Залатая рака.

А ўгары — небасхіл
Хараством зіхаціць...
Сонцу яснаму гімн
Безупынна гучыць.

*1912*

## ГОЛАС З ВЁСКІ

Я чую, як цяжка тут люд уздыхае,
Як скаргі свае падае.
На лепшых людзей гэта ён пазірае,
Змаганнікаў шчырых заве:

«Мы жджом вас: прыйдзіце ў цёмную вёску,
Падайце руку нам сваю.
Хай згіне тут цемра, хай сонца прагляне
Ў закінутым нашым краю.

Нам, горам прыціснутым, доўгія годы
Прыйшлося маўчаць і цярпець,
Цярпець прыгнячэнне, і здзек, і нягоды,
Ў нудзе і у цемры марнець.

Ўжо досыць,— мы доўга цярпелі, маўчалі,
Узнімем галовы смялей!
Прыйшоў час змагацца за лепшую долю,
Каб стала жыццё нам вальней.

Змаганнем здабудзем і волю, і долю,
З'яднаўшыся ў краі шчыльней.
Здалеем тады цемнату і нядолю,
І сонца нам блісне ясней».

*1913*

## НА РАДЗІМЕ

Вунь за жытнім полем,
Ля гары лясістай,
Заблішчэла рэчка
Стужкай серабрыстай.

Хутка ўдаль імкнуцца
Пералівы-хвалі.
Там куточак любы
У блакітнай далі.

Зноў я вас убачыў,
Родныя загоны:
Тут лясок зубчасты,
Там лужок зялёны.

За люстранай рэчкай
Выглянула вёска;
Вунь мяне вітаюць
Хаты і бярозкі.

Там кусты ля рэчкі,
Дзе збіраў суніцы,
Дзе паіў кароў я
Чыстаю вадзіцай.

Вунь навіслі нізка
Вербы над вадою,
Дзе лавіў я рыбу
Летняю парою.

Дзе я нарадзіўся,
Дзе набраўся сілы;
Не забыць ніколі
Мне куточак мілы.

Во садок знаёмы,
А за садам хатка,
Дзе я колісь бачыў
Ласкі роднай маткі.

Назіраў я пільна
Хараство прыроды;
Тут пазнаў і радасць,
Бачыў і нягоды.

Ведаў тут я працу,
Знаў і адпачынак...
Захаваў надоўга
У сэрцы успамінак.

Расцвіла мне ў сэрцы
У маладыя годы
Любасць да радзімы,
Да красы прыроды.

*1913*

# ЗАШУМЕЛА ЖЫТА...

Зашумела жыта
Спелым коласам,
Павяло размову
З ветрам-сіверам:
«Ты не дуй сярдзіта,
Вецер-сівер злы,
Не гані ліхія
Хмары з поўначы,
Не насып ты граду
Мне варожага,
Што руйнуе збожжа
З зямлёй-маткаю,
Бо ў бясхлебнай вёсцы
Хлебароб з сям'ёй
Згіне з галадухі
Лютаю зімой.
Лепш ты, вецер-сівер,
Хмару грозную
Пранясі над полем
Як мага далей.
Хай лепш поўдзень жаркі
Вецярком дыхне,
І пральецца дожджык
Ціхі, цёпленькі.

**Пасля дажджу сонца**
**Хай зірне ізноў,**
**Ажывіць і луг,**
**І поле жытняе,**
**Каб на ніву ў прыпар**
**Хлебароб з сям'ёй**
**Выйшаў з светлым тварам,**
**Выйшаў з радасцю**
**І ўбіраць узяўся**
**Жыта спелае**
**Ды вазіць дадому**
**Скарб працоўны свой».**

*1913*

## У ДАРОЗЕ

Грахоча цягнік між узгоркаў зялёных
Праз бор, што так сумна шуміць;
Блішчаць залаціста-бурштынныя сосны.
Куды ж ён так быстра бяжыць?

З-за лесу вунь выглянуў горад туманны;
Паплыў ён за ўзгоркі і знік.
Ізноў пацягнуліся вузкія ніўкі,
Дзе гнецца ад працы мужык.

Вунь гурмы сялян на палетках пясчаных
Капаюцца ў цьмянай раллі;
Працуюць з сахой, [illegible] бараной, небаракі
На пóтам аблітай зямлі.

А вунь ля курганчыка, між зеляніны,
Ў задуме дзяўчына сядзіць;
Заплаканы вочы,— дзяўчына-нябога
На свет белы сумна глядзіць.

Галоўку сваю апусціла так нізка,—
Чаму засмуцілася так?
Ў далёкі край, можа, пайшоў яе мілы
І згінуў навек, небарак?

А можа, ад здрады сумуе дзяўчына,
Успомніўшы ўцеху-вясну:
Кахаў яе мілы, ды хутка пакінуў,
Пакінуў дзяўчыну адну?..

Грахоча цягнік, разразае паветра,
Бягуць пералескі, палі,
Палянкі зялёныя, будкі і ніўкі
Ўзаранае мякка раллі...

*1913*

## РЫБАЛОЎ

Развітальны бляск кідаюць
  Промні сонца над сялом.
Навальніца адшумела;
  Сціх пад вечар дождж і гром.
Цёмны лес — нібы ў задуме.
  Гоман дня паволі знік.
Дрэмле дуб стары ля рэчкі,
  Бы нядбалы вартаўнік.
Рэчка быстрая струменіць
  У бухматых берагах.
Ўсё гусцей туман кладзецца
  Белай ватай на палях.
Ля кустоў бядняцкі човен;
  Сець збірае ў ім рыбак,
Лёс гаротны праклінае,—
  Б'ецца ў голадзе бядак.
У старой яго хаціне —
  Жонка й семера дзяцей.
Дзеці ходзяць па суседзях,
  Хлеба просяць у людзей.
З ім адвечна яго гора;
  Сэрца ные і шчыміць.
І, шнуруючы над рэчкай,
  Каня позняя скігліць.

*1913*

## ПЕСНЯ

Зялёная дубровачка,
Чаму зашумела?
Маладая дзяўчыначка,
Чаму спахмурнела?
Чаму, вецер злы, з дубровы
Лісце ўсё зрываеш?
Чаму часта ты, дзяўчынка,
Слёзы праліваеш?
Ах вы, людзі, добры людзі,
Як мне не тужыці,
Калі чуе маё сэрца —
З мілым мне не жыці!
Нам спаткаліся на гора
Багацеі-людзі,
Разлучылі мяне з мілым:
Шчасця нам не будзе.
Ой, пайду у лютым горы
Я у чыста поле;
Пашукаю я там пільна
Сабе лепшай долі.

*1913*

## ЗА АЙЧЫНУ

З вялікай журбою і з болем сардэчным
Хачу сваю скаргу спісаць
З душы, што ў сумоце і ў цяжкай пакуце,
Каб люты цяжар з яе зняць.

Чаму мяне сціснулі смутныя думы,
Чаму яны сэрца пічымяць? —
У нашай старонцы нам шкодныя злыдні,
Бы тыя вужакі, сіпяць.

Як жалкі і брыдкі, ўсе ворагі злыя,
Вы роднаму люду майму!
Усіх вас, заядлых, я ведаю добра,
Збурыліся знаю чаму.

Вам шкодзяць свабодныя нашы парывы;
Вы хочаце сціснуць людзей...
Але не здушыць вам, гадзюкам, ніколі
Нязломных працоўных грудзей!

Ліюцца ўжо промні світання-збавення,
І хутка загіне цямрадзь.
Не зломіце вольнае наша імкненне;
Мы будзем аб волі співаць!

*1914*

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

Гэй, паліце агні —
Час ў дарогу ўжо нам!
Пойдзем мы па таемныя кветкі.
Захаванае шчасце
Здабудзем мы там;
Нас праславяць удзячныя дзеткі.
Дык жа пойдзем хутчэй
Грамадою у бор!
Скарб жаданы мы там адшукаем.
Нам дарога ясней,
Бо blіschыць святло зор;
Перашкоды мы ўсе там зламаем.
Запалала здалёк
Нам зарніцай святло;
Больш не ўбачым мы цяжкага здзеку.
Мы жадаем, каб шчасце
Хутчэй к нам прыйшло,
Бо мы ў цемры марнеем адвеку.
З цвёрдай верай ідзём
Агняцветы іраваць,
Хоць у пушчы вужакі і гады.
Перашкоды наўкол
Нам тут ладзіць іх раць...
Гэй, смялей! не баімся мы здрады!

**Вунь, як зоркі, ўжо кветкі**
**Блішчаць у кустах**
**І праменні ляцяць залатыя...**
**Бляск магутнага сонца**
**Разліўся ў палях**
**Нашы сілы жывіць маладыя!..**

*1914*

## КАСЦЁР

*Прысвячаю працаўнікам асветы*

Падкладайце, браты,
Ў касцёр дроўцаў хутчэй,
Каб не згас наш агонь,
Каб палаў ён ярчэй!
Тым, хто ў цемры жыве,
Каб свяціў наш касцёр,
Каб маланкай наўкол
Свой агонь распасцёр!
Каб наш шлях асвятляў,
Каб ён вечна гарэў;
Хто ў бяздоллі жыве,
Каб той сэрца сагрэў!
Хай яго адусюль
Браты бачаць мае;
Думкі нашым святлом
Хай распаляць свае.
Не шкадуйце ж вы дроў,
Мае сёстры, браты,
Распаліце ў душах
Наш агонь залаты!
Каго люты мароз
Тут так моцна скаваў,
Каб наш светач-агонь
Асвятляў, саграваў...

**Дык палай жа, святло,**
**Ясным сонцам палай;**
**Хай прамені тваё**
**Азараюць наш край!**
**Дай нам моц, каб хутчэй**
**Люд магутным тут стаў,**
**Абудзі, узнімі —**
**Каго сон тут скаваў!**

*1914*

## НЕ ЗАБЫЦЬ МНЕ ДЗЁН МАЁВЫХ...

Не забыць мне дзён маёвых,
Шчабятання салаўя.
Ў садзе дрэвы красавалі,
Як з табой спаткаўся я.
Не забыць мне дзён вясенніх,
Не забыць мне свежасць іх.
Мы з табой у гай хадзілі
Кветкі рваць тады ўдваіх.
Помню жыта я за вёскай,
Дзе дарога ў бор вяла.
Насустрэчу мне з дубровы
З гучнай песняй ты ішла.
Не забыць мне голас мілы,
Песню звонкую тваю,
Што і ў вёсцы і на полі
Душу цешыла маю.
Помню — ясным летнім ранием
Я прыйшоў к табе у сад.
Ты мне песню зноў спявала;
Я сустрэць цябе быў рад.
За акном маім сягоння
Вецер жаласна шуміць.
Стогне сумны бор за вёскай;
З неба мутны снег ляціць.

**Без цябе мне цяжка, нудна,**
**Незабыўны друг ты мой...**
**Можа, зноў калі пачую**
**Я твой смех і голас твой.**

*1914*

## НЕ ПЛАЧ, СЭРЦА...

Ну, шумі ты, вецер,
Непагодай дзікай;
Не плач, маё сэрца,
Ад жальбы вялікай!

Табе цяжка, нудна,
Што зіма настала,
Непагода злая
Хмар да нас наслала;

Што скаваў так моцна
Вёску сівер люты,
На жыццё прыроды
Налажыў ён путы;

Што гібее ў вёсцы
Родны люд убогі,
І няма тут шчасця,
І няма дарогі...

Покуль вецер стогне,
Завіруха ў полі,—
Набірайся сілы,
Сэрца, як найболей.

Загартуйся моцна
Для агню-змагання,
Каб хутчэй убачыць
Сонечнае ранне.

Дык у цяжкім горы,
Сэрца, не журыся,
Лепш надзеяй светлай
Ты мне адзавіся!

Гэй, засмейся, сэрца,
Той усмешкай мілай,
Што душу ўзнімае,
Узмацняе сілы.

*1914*

## У ЧАС ВАЙНЫ

Мне цяжка на сэрцы, а хочацца думаць
Аб шчасці, аб светлым краю...
Дзівосныя мары і вольныя думы
Душу узнімаюць маю.

Не!.. кіну на час нейкі шчасныя думкі
У дні цяжкай і горкай жуды,
Лепш гляну, як родная вёска марнее
І стогне там люд ад бяды.

У час бітвы, як смерць людзей косіць без жалю,
Ліецца скрозь братняя кроў,—
К табе душа рвецца, гаротнік-ваяка,
Табе аддаю ўсю любоў.

Надыдзе збавенне, і змоўкнуць гарматы —
Тады адпачынем душой,
І сонца прагляне гаючым праменнем
Над змучанай нашай зямлёй.

Усцішым боль сэрца, загоім мы раны
І смела зірнём на прастор.
К жыццю тады новаму мы уваскрэснем,
Душой узнясёмся да зор.

*1916*

# II

## *Услаўленне кастрычніка і новай явы*

### ГІМН СОНЦУ

Вось шарам агністым,
Зарой прамяністай
Ўжо сонца зірнула на свет.
Пажарам заззяла,
Усюды паклала
Яскравы, ажыўчы свой след.
Вышэй узнялося,
Ў агні убралося
І ззяе пурпурам сваім.
І цешацца краскі
Ад сонечнай ласкі,
Бо шчасна ад сонейка ім.
Рака залаціцца,
У хвалях бруіцца
Магутнае чырвань-святло.
Смяецца прырода —
Не знаю нягоды,
Бо сонца на небе ўзышло.

**Звіняць шчабятушкі —**
**Свой гімн пяюць птушкі**
**Прыроды асілку-цару,**
**Ўсіх сілаў вялікіх**
**І светаў бязлікіх**
**Магутнаму гаспадару.**
**Высокае неба**
**І ўся зямля-глеба**
**Моц новую чуюць сваю**
**І сонцу, світанню**
**Шлюць гімны-вітанне**
**Ў асветленым сонцам краю.**

*1918*

## ЧЫРВОНЫ ЗОЛАК

Чырвоны золак загарэўся —
I ўзняўся з мроку родны люд,
Парваў ён ланцугі няволі,
Пазбыўся ён адвечных пут.
Даўно жаданая нам воля —
Зара шчаслівых, ясных дзён —
Палае ярка над краінай
I нішчыць цемру і праклён.
Чырвоны золак загарэўся —
I згінуў хутка цяжкі сум.
З душы асветленай ліецца
Паводка новых, творчых дум.
Над шматпакутнаю старонкай,
Дзе чулася раней ныццё,
Узняўся кліч да творчай працы,
Лунае новае жыццё.

*1921*

## ВОЛАТ

Спрадвеку спаў ён цёмны, хмурны,
Цярпеў прыгнёт, і глум, і здзек.
Але пранёсся выбух бурны —
І ўстаў асілак-чалавек.
За доўгі час набраўся сілы,
Загартаваўся і узрос;
У бой пайшоў за край ён мілы
І меч над ворагам узнёс.
Хоць волат быў баямі зморан,
Увесь у цяжкіх ранах ён,
Але магутнае змаганне
Дало вялікі ў краі плён.

*1921*

## БЕЛАРУСЬ САВЕЦКАЯ

З дня на дзень, з году ў год
Тут ліхая зіма
Нам кавала варожыя путы.
Але верылі мы,
Што не вечна тут цьма,
І не вечна наш край будзе скуты.
Яснакрылым арлом
Прыляцела вясна
Са сваім цеплавейным вітаннем.
І ад сну узняла
Ўсё жывое яна
Жыватворчым, магутным світаннем.
Заблішчэў небасхіл
Бляскам сонечных дзён,
Над краінай не сцелюцца хмары.
Беларускі народ
Скінуў цяжкі свой сон;
Сталі явай адвечныя мары.
Выйшла ты, Беларусь,
На шырокі прастор,
Над табою няма ўжо апекі.
Сабяры ты ўсю моц
І сягні аж да зор:
Больш не ўбачыш ярма ты вавекі!

З дапамогай братоў,
Што [redacted] усходу прыйшлі,
Ты дзяржаўнасць сваю збудавала.
Калі ж вораг ізноў
Меч узніме на нас,—
Зломім хутка мы злую навалу.
Мы будуем жыццё,
Да камуны ідзём
Сёння яснымі ўсім нам шляхамі;
І ніколі ніхто
Нас не зможа спыніць,
Бо заўжды наша партыя з намі!

*1921*

## ЯК ЛЮБЛЮ Я ЦЯБЕ, БЕЛАРУСЬ!..

Як люблю я цябе,
Беларусь ты мая,
І як дарага ўся
Прыгажосць мне твая!
Вось я полем іду
Цёплай летняй парой.
Я любуюся тут
Нашай роднай красой.
Яснага ў небе скрозь,
Няма воблачка ў ім,
Моцна вабіць мяне
Даль прасторам сваім.
Палымнее усход —
Нібы ўспыхнуў пажар.
Сонцу гімны звіняць;
Колькі ў гімнах тых чар!
Вось я ў пушчу прыйшоў;
Эх, які ж тут прастор!
Як далёка кругом
Лес шацёр распасцёр!
Тут бярозы стаяць
Беласнежнай сям'ёй;
Упрыгожаны дол
Аксамітам-травой.

А за лесам ізноў —
Сенажаці, палі.
Тут чакаюць зярна
Скібы свежай раллі.
Хутка вечар прыйшоў
З цішынёю сваёй —
І заснуў ціхім сном
Лес вячэрняй парой.
У абдымках смугі
Задрамалі кусты;
На зялёным галлі.
Ўжо не шэпчуць лісты.
Вунь дыміцца рака,
Сціхлі скрозь галасы,
Замігцелі ў траве
Дыяменты расы.
Ўсю тваю прыгажосць,
Беларусь ты мая,
І тваю яснату,
Эх, люблю ж моцна я!
Як жа радасна мне
Твой прастор аглядаць,
Шчырым сэрцам цябе
З жыццём новым вітаць.

*1921*

## РАБОЧАМУ

Гэй, рабочы, днём і ноччу
    Шчыра ты працуй!
Час прыйшоў для нас гарачы,—
    Краю долю куй!
У тваім жыцці ранейшым
    Змрок стаяў кругом.
Працаваў ты на багатых
    І ўначы і днём.
Галадалі твае дзеці,
    Быў абдзёрты сам.
Зараз сонца яснай долі
    Засвяціла нам.
Мы ўжо выйшлі на шырокі,
    На вялікі шлях.
Дык вышэй жа узнімай ты
    Вольнай працы сцяг!
Толькі ў працы і ў змаганні
    Ўсіх збавенне нас:
Закрасуе край любімы,
    Бо прыйшоў наш час...
Дык аддана і сумленна
    За станком працуй;
Ты савецкаму народу
    Шчасце-долю куй!

*1921*

## ГЭЙ, ЗА ПРАЦУ ХУТЧЭЙ!..

Воля — шчасця зара —
Асвятліла наш край.
Беларускі народ,
Песняй волю вітай!

Цяжар путаў ліхіх
Ужо згінуў навек;
У будынак святла
Увайшоў чалавек.

Працаўнік-беларус,
Прад табой вольны шлях:
Сабяры ж ты ўсю моц
І будуй новы гмах!

Гэй, за працу хутчэй,
Ў поле ўсе — як адзін!
Працаўнік ад вякоў
Шчыры краю быў сын.

Праца, шчырасць — падмур
Лепшай долі тваёй;
Толькі ў працы хутчэй
Знойдзеш шчасце сваё.

**Дык, бязладдзе, гэй, прэч!**
**Праца ў наступ ідзе.**
**Заяснеў вольны шлях**
**Для працоўных людзей!**

*1921*

## ХОДЗІЦЬ ВОСЕНЬ ПА ПАЛЯХ...

Ходзіць восень па палях,
Шум кідае па лясах.
Яркіх кветак больш няма,
Хутка прыйдзе к нам зіма.
Задыміліся туманы
І палёў схавалі раны.
У паветры ўецца ніць —
І срабрыцца і дрыжыць.
Восень, з шэлестам смутлівым,
Дыванам сваім шумлівым
Засцілае лясны шлях —
Ўсе прасекі у лясах.
І дрыжыць перад дзянніцай
Адзінокаю зарніцай
Ў цьмяным люстры азяроў —
Між схіліўшыхся кустоў.
Як дзяцюк той улюблёны,
Ходзіць вецер задумлёны
І заводзіць па жніўю
Песню смутную сваю.
І апошнія ўжо кветкі —
Асалоды летняй сведкі —
Ўдаль адносіць ён з палёў
Разам з крыкам жураўлёў.

**Ходзіць восень па палях,**
**Шум кідае па лясах.**
**Яркіх кветак больш няма,**
**Хутка прыйдзе к нам зіма.**

*1921*

## РАСКУТЫ ПРАМЕТЭЙ

За гарамі горы храмамі павіты,
Пасеяны горам ды крывёй паліты;
Спакон веку Праметэя там арол карае,
Штодзень дзяўбе яго рэбры,
сэрца разрывае...

З народнай песні аб Праметэю

**Калісь у старажытнасці багі Алімпа**
**К скале, якую вал марскі спрадвеку абмываў,**
**Так моцна прыкавалі Праметэя,**
**Што нерухома ён, нібы мярцвяк, ляжаў.**
**Як толькі Праметэй хацеў заварушыць**
**Знямеўшыя ад болю рукі й ногі,**
**Яго бязлітасна каралі.**
**Здавалася, што надта мала ўжо ён будзе жыць.**
**Як толькі ён хацеў падаць свой голас,**
**Яму тады сціскалі рот.**
**І хоць ён люду мілы быў, бо даў святло жывое,**
**Але адратаваць яго бяссільны быў народ.**
**І думалі памслівыя багі Алімпа,**
**Што ўлада іх умацавалася навек.**
**Але сабраў свае ўсе сілы**
**Магутны гэты чалавек —**
**І затрашчалі і парваліся са звонам**
**Трымаўшыя так моцна Праметэя ланцугі,**

І вось, на дзіва ўсяму свету, вольны,
Пакінуў ён марскія берагі.
Багоў Алімпа захапіў спалох вялікі,
Замёрла сэрца ўладароў ліхіх
Ад думкі той, што Праметэй-асілак
На грозны суд пакліча скора іх.

Як радасна сёння
У свабоднай краіне:
Вялікі Кастрычнік прыйшоў!
Уцехай асветлены
Шчасныя твары
Савецкай радзімы сыноў.
Сягоння я ўсюды
Цябе сустракаю,
Раскуты народ-Праметэй!
Сягоння і неба
Святлей, чым учора,
І сонца нам свеціць ярчэй.
Узнёслыя песні
Патокам ліюцца,
Удаль яны рвуцца хутчэй.
А думкі магутным
Віхорам імкнуцца,
І шмат у нас ясных надзей.
Нам радасна сёння,
Бо волю святкуе
Працоўная мужная рацъ;

Адзін аднаго
З жыццём новым віншуем,
А сэрцы уздымам гараць.
Злучайцеся шчыльна,
Краінаў народы —
Грамады працоўных людзей!
Святкуйце вялікае
Свята свабоды,—
Хай гімн наш ліецца званчэй!

*1922*

## МОЛАДЗІ

Гэй, дружней; узнімайся
Ты, моладзь краіны,
Узнімайся ты, слаўная рапь!
Ужо ўстала радзіма,
Устала з руінаў,—
Цябе кліча жыццё будаваць.

Ты уважна і пільна
Угледзься наўкола:
Колькі спраў тут чакаюць цябе!
У шчырай працы над імі
Ты знойдзеш уцеху,
Знойдзеш шчасце сваё ў барацьбе.

Ты з аджыўшым заўсёды
Змагайся упарта.
Давай новаму ход у жыццё!
Адгукнецца хай шчыра
На гэтую справу
Маладое тваё пачуццё.

Дык з юнацкім запалам
Кіруй свае сілы
Ты на творчы, на радасны шлях;

Як хутчэй пабудуй,
Ўсяму свету на дзіва,
Жыцця новага велічны гмах!
Дружнай працы тваёй
Не забудзе ніколі
Шматпакутны радзімы наш край.
Дык дружней жа за працу
Бярыся ты, моладзь,
І заўсёды аб краі ты дбай!

*1922*

## СУСТРАКАЦЬ ПАЙДУ ВЯСНУ...

Я сягоння не засну:
Сустракаць пайду вясну.
У садочку, ля маліны,
Дзе духмяныя галіны
Прытуляе бэз к кустам,
Я вясну спаткаю там.

Вось я ў садзе, дзе бярозкі.
З іх лісточкаў, быццам слёзкі,
На зямлю ляцяць расой,
Зораць казачнай красой.
Там вішняк — сям'ёй густою:
Нешта шэпча ён ліствою.

Ад бярозак крыху ўбок
Малады стаіць дубок.
Вунь і ліпка каля тыну,
Што ўзнялася над малінай.
Пасадзіў яе з дубком,
Як малым быў хлапчуком.

А над садам, на прасторы,
Залатыя ззяюць зоры,
Шлюць цудоўныя мне сны,

Бо мае сябры яны.
Сёння сад у срэбным бляску...
Мне лісткі раскажуць казку.

Буду казкі й сам складаць
І з прыродай размаўляць,
Бо яе люблю я шчыра,
Мне яна [redacted] дзяцінства міла...
Не!.. ўсю ноч я не засну:
Сёння я сустрэў вясну.

*1922*

## МАЁ ДЗЯЦІНСТВА

Як толькі ўспомню я парою
Дзяцінства дні, бы тыя сны,—
Жывой крыніцай прада мною
Плывуць гады маёй вясны.

Матулі роднай вобраз мілы,
Пяшчотнасць, любасць да мяне,
Яе аб дзецях клопат шчыры
Ўсплываюць часта ў светлым сне.

Я рос сярод красы прыроды,
Душу сваю з прыродай зліў;
І ў шчасны час і ў час нягоды
Яе заўсёды я любіў.

Вясной і летам прамяністым
Любіў я ранецька ўставаць
І ля ракі сваёй празрыстай
Ружовы ранак сустракаць.

Тады з палёў жывым струменем
Ка мне ляцеў дзівосны звон,
І, разам з жаўранкавым спевам,
Душу і сэрца поўніў ён.

Я добра помню майскі ранак:
У лесе кветкі я збіраў.
Ў кустах лазовых, за палянай,
Прыветна салавей спяваў.

Паміж кустоў і траў зялёных
Нямоўчна гаманіў ручэй.
Ад хараства лясной нізіны
Не мог я адарваць вачэй.

Зноў успамін, як сон, ўсплывае:
Пурпурам зззяе ўвесь усход,
Нібы пажар там палыхае,
Душа імкнецца у палёт.

Сярод званцу і палыноў
Я з вудачкай па сцежцы вузкай
Іду к вярбінцы ля кустоў,
А след мой цягнецца істужкай.

Вось бераг рэчкі мне знаёмы.
Кідаю леску я ў ваду,
За паплаўком сачу я пільна,
З прыродай гутарку вяду.

Во срэбрам мільганула рыбка;
Хутчэй у збан яе кладу...
Пасябраваў я з рэчкай зыбкай,
Тут многа перадумаў дум...

У бацькі хлеба не хапала,
Сваю сям'ю каб пракарміць.
Ён на мулярскія работы
Штогод павінен быў хадзіць.

Каб зарабіць, я летам з бацькам
Па розных вёсках вандраваў.
Зімой вучыўся і з маленства
Цяжкую працу я спазнаў...

Як толькі ўспомню я парою
Дзяцінства дні, бы тыя сны,—
Жывой крыніцай прада мною
Плывуць гады маёй вясны.

*1922*

# ПАМЯЦІ ПАРЫЖСКАЙ КАМУНЫ

Дзень новы вясною
Заняўся над краем,
Парыж асвятліўся зарой,
Пабедныя песні
Парыжскай камуны
Плывуць несупыннай ракой.
Заззяла свабода —
І згінулі здзекі;
Ліецца святло над зямлёй.
Парваны ўжо рабскія
Путы навекі,
І люд схамянуўся душой.
Маланкай ляціць
Вокліч радасны, вольны
Удаль — у сусветны прастор.
Працоўны люд мужна
Імкнецца ад цемры
Да яснага сонца, да зор...
Я сёння ўслаўляю
Камуну Парыжа,
Бясстрашных яе змагароў.
Нядарам грымелі
Ў баях барыкады,
Нядарам лілася там кроў.

Камуна Парыжа —
Нам прыклад яскравы:
Будуем вяршыні жыцця.
Нам свецяць здалёку
Агні камунізма;
Мы моцна трымаем свой сцяг.

*1923*

# НАВАЛЬНІЦА

Прыціхлі у стоме і лес, і зямля;
Чакаюць прахлады расліны, ралля.
А спёка мацнее, наўкол цішыня:
Прырода чакае дажджлівага дня.

Вунь цёмная хмара з-за лесу ідзе,
Маланкі, грымоты з сабою вядзе,
Расце і расце, абняла небасхіл.
Схавалася сонца, віхорыцца пыл.

А вецер мацнее, у дрэвах шуміць;
У хмарах маланка пажарам блішчыць.
Згусціліся сілы магутныя вод,
І сыплюцца кроплі дажджу, нібы шрот.

П'е прагна ваду ля дарогі трава,
Красуецца ззяннем свайго хараства.
Руччы ўперагонкі — адзін за адным —
Бадзёраць прастор булькатаннем сваім...

Прайшла навальніца, грукоча здалёк;
Бы музыка, грае вясёлы грамок.
Прарэзала неба вясёлка дугой,
Аздобіла далі красою сваёй.

Блакіт небасхілу і ясен і чыст;
Не шэпча на дрэвах здаволены ліст.
Абмыліся кветкі, глядзяць весялей,
Красою дзівоснаю вабяць людзей.

Асветлены ўсмешкай і поле і бор;
Спеў радасны птушак ляціць у прастор,
Выходзь, працаўнік, на квітнеючы дол!
Ты ўбачыш, як цешыцца ўсё навакол.

*1924*

## НА КВІТНЕЮЧЫМ ПОЛІ

Сёння з першай песняй рання
Я пайшоў у поле
Сіл набрацца, любавацца
Сонцам і прыволлем.

Тут праменіцца, красуе
Жыта і пшаніца;
Сонца шчыра тут смяецца,
Поле залаціцца.

На прасторы каласочкі
Шастаюць-гуляюць;
Тут зарніцы, навальніцы
Песні мне спяваюць.

Кветкі луга хмелем-шчасцем
Сэрца напаўняюць;
Тут званочкі, незабудкі
Мне прыветна ззяюць.

Мітусяцца матылёчкі
Клініямі ў паветры.
І здаецца, што спяваюць
Мне зямныя нетры.

П'ю я водар, п'ю я слодыч
Сонейка і кветак,
І з уцехаю іду я
Праз дыван-палетак.

Сёння з першай песняй рання
Я пайшоў у поле
Сіл набрацца, любавацца
Сонцам і прыволлем.

*1925*

# ГУДКІ

Гулкім посвістам птушкі дзівоснай,
Моцным воклікам-спевам асілка
Гудкі клічуць да вольнае працы,
Што шчасліваць савецкі наш край.

Слупы дыму ад комінаў стромкіх
Падпіраюць высокае неба,—
Кучаравымі мётламі гожа
Распісалі блакітны абшар.

Разлятаюцца іскры віхорам,
Сталь спявае аб злітнасці-гарце,
І сімфонія сталі і працы
Поўніць сэрца чароўнай красой.

Дык аб чым жа спяваюць гудкі нам
Па-над горадам шумным, бурлівым,
Калі раніца золатам сонца
Атуляе і песціць зямлю?

Нам спяваюць гудкі аб адзінстве,
Аб свабоднай і радаснай працы,
Што вядзе к шчасцю-сонцу працоўных,
Што магутным зрабіла наш край.

**Ўсяму свету заводы спяваюць,**
**Што ў нас праца сагрэта натхненнем,**
**І адданую вольную працу**
**Не разбурыць ніколі ніхто!**

*1926*

## ЯСНАЯ РАНІЦА

Яшчэ зорыцца неба над гаем,
А ўжо цемру — заслону абшараў —
Расхінае на ўсходзе дзянніца.
Птушкі раніцу дружна вітаюць.
Вунь люстраняцца срэбрам выгары,
Рэчка белым агнём прамяніцца.

У прасторах, дзе рань расцвітае,
Праплываюць, бы чайкі па моры,
Легкакрылых хмарын валаконцы,
Чырвань морам ліецца над гаем,
А здалёку, з-за цёмнага бору,
Агнявокае глянула сонца.

Загукала калгасная вёска
Гулкім спевам трубы пастуховай,
Пераліvамі гукаў вясёлых.
І зычліва звіняць адгалоскі
Над шумліваю вёскаю новай
У бязмежным блакітным прасторы.

З белых комінаў хат гаманлівых
Завіхрыўся дымок кучаравы

**І расплыўся ў блакітным бяздонні.**
**Гучным клёкатам бусел цыбаты**
**Прамяністую рань сустракае;**
**Песню шчырую жаўранак звоніць.**

*1926*

## ЗВОНІЦЬ СЭРЦА...

Звоніць сэрца песняй зорнай,
Льюцца гукі-пералівы,
Льюцца водгуллем бурлівым
І плывуць па-над палямі
Ў свет далёкі, ў свет прасторны.

Перамогі слаўнай сцяг
Узнімаецца ў краіне.
Свет стары ў прадонні гіне.
І яснее і квітнее
Сонца новага жыцця.

Дзе спяваў шрапнелі лёскат,
Дзе былі руінаў здані,
Дзе лілася кроў змагання,—
Праца творчая шчасліпіць
Гарады і нашы вёскі.

Струн вясёлых перазвон
Не замоўкне ў нашым краі...
Шчырым сэрцам я спяваю
Гімны светлыя, як сонца,
Хараству цудоўных дзён.

*1927*

## У СЭРЦЫ РАДАСЦЬ РАСКВІТНЕЛА...

Ў сэрцы радасць расквітнела
Буйным, яркім агняцветам,
Бо ў палях ужо не бела,
І зямля жыццём дыхнула,
Санцавеем абагрэта,—
Ўжо смяецца песняй-гулам.

Быццам срэбныя званочкі,
Звоняць-граюць ручаёчкі,
Баюць сэрцу дзівы-казкі.
А вясна ўжо сыпле краскі:
Каля лесу сінь-пралескі
Усміхнуліcь санцаблеску.

Уздрыгнуўся лес бадзёра,—
Веснаход гуляе з ветрам.
Песні, музыка ў паветры
Узвіхорылі прасторы.
А жар-сонца каля гаю
Вясне косы заплятае.

*1928*

## ШЛЯХ КАЛЕКТЫВУ

Мы шыбаем няспынна
Калектывам нязломным
Па шырокай дарозе жыцця,
І узлётам арліным
Уздымаюць нас домны;
На ўвесь свет палымнее наш сцяг.

Мы спалілі заломы,
Ўскаласілі загоны
На шырокіх прасторах палёў.
Перашкоды мы зломім
Гартаваннем-разгонам
І развеем туманы вякоў.

Наша ява — у буднях,
Буднях творчага ўздыму,
Што буяе нязгасным агнём.
Калектывам магутным
У будове радзімы
Мы няспынна наперад ідзём.

Мы напорна узняты
Шчырым творчым запалам;
Ў нашым руху хістанняў няма.

Няхай вораг зацяты
Нам не грозіць навалай,—
Ён наш поступ не зможа стрымаць!

Мы шляхі працярэбім
Да сусветнай Камуны,—
Ярчэй сонца заззяе жыццё.
Дык вышэй жа, наш светач,
Каб хутчэй над сусветам
Ты прамені свае распасцёр.

Нас узлётам арліным
Узвіхорылі домны;
На ўвесь свет палымнее наш сцяг.
Мы шыбуем няспынна
Калектывам нязломным
Па вялікай дарозе жыцця.

*1929*

## ГОЛАС ПАДНЯВОЛЬНЫХ

*Прысвячаю братам Заходняй Беларусі*

Скована думка,
Скована слова,
І стогне люд.
Усюды путы,
Народ закуты,
І цемра тут.
Нас душыць гора,
Нас давіць камень
Трывожных дум,
Калі зжывём мы
Знявагу, здзекі,
Звярыны глум?
Мы тут гібеем,
Але з надзеяй
Глядзім на ўсход.
Мы цвёрда верым,
Што будзе знішчан
Калючы дрот.
Настане хвіля —
Збавенне прыйдзе
У краі ўсім.
Байцы за волю
Працягнуць рукі
Братам сваім.

**Зруўнуем межы**
**І пераможам**
**Пачвар усіх.**
**І прыйдзе катам**
**За здзек адплата**
**Ў той грозны міг.**
**Мы смела пойдзем**
**Пад сцяг чырвоны —**
**Камуны сцяг,**
**І расквітнее**
**Убраннем працы**
**Наш вольны шлях.**

*1929*

## НА КАЛГАСНАЙ СЕНАЖАЦІ

Толькі пырснулі сонца праменні
    На зялёны прастор-сенажаць,
А ўжо росы ў дзівосным мігценні
    Аганькамі вясёлкі гарацъ.
Вось касілкі на луг уз'язджаюць —
    І ляціць гоман працы жывы.
Вунь у золаце ранку мільгаюць
    Кучаравыя хвалі травы.
Хвалі множацца з кожнай хвілінай
    Пад напорам машын баявых;
Хутка, быццам у казцы, даліна
    Напаўняецца працаю іх.
Тут работа адданасцю ўзнята,
    Каб наш край багацеў і мацнеў.
Разбіваюць пракосы дзяўчаты —
    І далёка ляціць гучны спеў.
Падышла камсамольцаў брыгада —
    Закіпела работа шпарчэй.
Камсамольцам і сонейка рада,
    І дзяўчаты спяваюць званчэй.
Бы жывое, тут сена ўзлятае,—
    Яно к сонцу павернута ўміг,
Вунь сухое хлапцы саграбаюць.
    Спеў дзяўчат тут бадзёрыць усіх.

І растуць над люстранай ракою,
Нібы войска асілкаў, стагі.
Мнагалюднай калгаснай сям'ёю
Расквітнелі ракі берагі.
Сонца звесіла промні над лесам;
Луг цвіце бляскам летняй красы.
Гуд бадзёры машын каля ўзлесся,
Па-над лугам званчэй галасы.
Тут спраўляе калгас урачыстасць
Шчырай працы, яе хараства.
Урачыстасці рады і сонца,
І палі, і касцы, і трава.

*1936*

## МІТЫНГ У КАЛГАСЕ

Я прыйшоў на мітынг
Раннем залацістым.
Зіхаціць красою
Першамайскі дзень.
Ля трыбуны пышнай
Шумна, урачыста,
Многа ўздымных песень,
Многа тут людзей.
Вось даярка наша
Папрасіла слова,
Стала на трыбуне —
Сход напружыў слых.
Лепшай працаўніцы
Палкая прамова
Ўсім прыйшла да сэрца,
Ўсхвалявала ўсіх.
— Сёння мы святкуем
Радаснае свята,
Бачым у краіне
Росквіт шчасных дзён.
Любасцю гарачай
К партыі мы ўзняты;
Ёй мы пасылаем
Шчыры наш паклон.

Узнімайце вышай
Сцяг калгаснай працы,
Каб яшчэ магутней
    Стаў савецкі край,
Каб калгасы нашы
З году ў год
            давалі
Сонечнай Айчыне
    Слаўны ураджай!
Нам не страшны вораг,
Што вайною грозіць:
Наш Саюз дужэе
    З кожным новым днём.
Не спыніць нікому
Наш паход магутны,—
Мы да камунізма
    Ўпэўнена ідзём.
Мы на кожным кроку
Нашае Радзімы
Клопатаў вялікіх
    Бачым буйны плён.
Шчырая падзяка
Партыі любімай.
Хай жыве Саюз наш —
    Слава нашых дзён!
Сонца пракладае
Шлях красе маёвай,
Атуляе хаты
    Ласкай і цяплом.

6

Я усхваляваны
Хараством вясновым,
Мітынгам калгасным,
    Першамайскім днём.

*1937*

## ПЕСНЯ ТРАКТАРЫСТА

Выязджаю ў поле рана
За ўраджай змагацца,
Пакажу размах нязнаны
Нашай шчырай працы!
З гаю пах плыве духмяны,
Поле дыша маем.
Трактар шле свой спеў далёка.
Ён вясну вітае.
У вялікім у паходзе
З шляху мне не збіцца.
Расквітнеюць пышна, плённа
Наш ячмень, пшаніца.
Бы жывая, ходзіць жвава
Спраўная машына.
Дружна сыплюцца зярняты
На зямлю-пярыну.
Поле скінула аковы,
Дыша пахкім маем;
Гулкім гудам трактар новы
Луг і гай вітае.
Нам зычліва ззяе сонца —
Наш прыхільнік шчыры,
Дык займай жа, трактар, гоні
І даўжэй і шырай!

6*

Закрасуе ў нашым полі
Ураджай багаты
І парадуе калгас наш
Шчодраю аплатай.
Выязджаю ў поле рана
За ўраджай змагацца,
Пакажу размах нязнаны
Нашай шчырай працы!

*1937*

# САДОЎНІК

Толькі ўскінула рань
Ясны позірк на сад,
Дзе ўздымаюцца дрэвы радамі,
А садоўнік даўно
Ў сад з рыдлёўкай прыйшоў,
Як руплівa прыходзіў гадамі.

Клапатлівай рукой
Ён у садзе сваім
Пустазелле наўкол вырывае,
А рыдлёўкаю скрозь
Каля дрэў і кустоў
Ён глыбока зямлю разрыхляе.

Вецце дрэў і кустоў,
Нібы маці дзяцей,
Ён з любоўю штодзень аглядае
І крынічнай вадой,
Не шкадуючы сіл,
Сад старанна увесь палівае.

А як восень ізноў
Зашуміць тут галлём,
Жоўтым лісцем засцеле даліны,—

Сокам-мёдам тады
Наліюцца плады,
Зарумяняцца пышна галіны.

І садоўнік ізноў
У калгасны свой сад
Прыйдзе з ласкай, з усмешкай прыветнай.
Гаспадарнай рукой
Ён збярэ тут плады,
Што пакрыюць, бы золатам, веццё.

*1938*

## ГЕРОЯМ АРКТЫКІ І АНТАРКТЫДЫ

Я слаўлю смелых,
Я слаўлю мужных,
Героям слаўным
	Я шлю прывет.
Адвага, ўпартасць,
Бясстрашнасць, цвёрдасць
Усхвалявалі
	Увесь сусвет.
Вядзеце смела
Змаганне з морам,
Каб там асвоіць
	Глухую стынь.
Адкрылі свету
Вы таямніцы
Палярных водаў,
	Марскіх глыбінь.
Штандар герояў
Лунае ў краі,
У самым шчасным
	З усіх краін.
Уцеха, гордасць
Мяне ўздымаюць,
Бо я цудоўнай
	Краіны сын.

Я слаўлю смелых,
Я слаўлю мужных,
Героям слаўным
Я шлю прывет.
Адвага, ўпартасць,
Бясстрашнасць, цвёрдасць
Усхвалявалі
Увесь сусвет!

*1938*

## ЛЯЦІ, НАШ СПЕЎ

Наўкол — агністыя сцягі;
Святкуе шчасны край.
Ляці ў прастор, наш гучны спеў:
Мы славім Першамай!

Мы, людзі сонечнай зямлі,
Спаткаць наш Май ідзём
Шматлікай дружнаю сям'ёй
І радасна пяём.

Чаму ж вясёлымі не быць,
Чаму ж нам не спяваць,
Калі наш край цвіце, як май,
Наўкол сцягі гараць?

Сцягі вялікіх перамог,
Якіх не ведаў свет!
Любімай партыі мы шлём
Гарачы свой прывет.

Яна да слаўных перамог
Вядзе наш край заўжды.
У бляску сонечных яснот
Ідуць да нас гады.

Наўкол — агністыя сцягі;
Лікуе шчасны край.
Ляці ў прастор, наш гучны спеў:
Мы славім Першамай!

Ляці, наш спеў, і прагучы
На ўсю зямную шыр,
Ты узнімай усіх людзей
На барацьбу за мір!

*1940*

## ЯНУК У ЛЕСЕ

На ўсходзе румяніцца неба...
Янук выганяе карову,
Спяшаецца вельмі хлапчук.

Дагнаўшы старога Міколу
З вялікай трубой серабрыстай,
У лес паімчаўся хлапчук...

А вось і калгасная пушча.
А колькі тут рознай прынады,
А колькі чырвоных суніц!..

Зайшоў ён у самую гушчу:
Ён кожнаму кусціку рады,
Бо лес так прыемна шуміць,

І Янку заўсёды ён вабіць
Разложыстым дахам зялёным
І гоманам птушак лясных.

Тут стромкія ясені, грабы,
Бярозы, рабіны і клёны,
Тут водар смалістай сасны.

Дол выслан сунічнікам, лісцем,
Цвіце каляровасцю кветак,
Што зорацъ вясёлкай-расой.

І хлопчыку ўсё люба ў лесе,
Ўсё Янку страчае прыветна,
Ўсё цешыць красою сваёй.

*1940*

## МАЯ ПЕСНЯ

Спяваў я калісь пра няволю,
Пра наш гаротны, змрочны лёс,
І цвёрда верыў: прычакаем
Інакшых дзён — без цемры, слёз.

Мой спеў звінеў не для багатых,
Што працай бедна́ты жылі,—
Аб горкай долі думы-песні
У хаты бедныя плылі.

Мой спеў напоўнен быў жаданнем,
Каб наш прачнуўся родны люд,
Каб выйшаў ён на шлях змагання,
Парваў ланцуг сваіх пакут.

Бы сонца зыркае вясною,
Прыйшоў семнаццаты к нам год:
Кастрычнік бураю магутнай
Навекі змёў прыгон, прыгнёт...

Шмат год я маю за плячыма,
Але яшчэ не змоўк мой спеў.
Я ўсцешан, што наш край любімы
Так пышна, ярка расквітнеў.

Хай ведае ўвесь свет пра радасць,
З якой сягоння я пяю,
Бо слаўлю партыю я шчыра,
Радзіму шчасную сваю!

Ляці ж, мой спеў, звіні няспынна
Ты над Айчынаю маёй,
І гучна, водгалас, імчыся
Шырокай, светлаю ракой!

Дала нам партыя натхненне,
Адчуў я творчых дум узлёт.
З уцехай сонечнай я слаўлю
Да камунізма наш паход!

*1949*

## ЖНІВО

Пышна залоціцца рослае жыта;
Морам хвалюецца дол.
Гоман і шум на калгасных загонах:
Праца кіпіць навакол...

Бегае шпарка па полі жняярка;
Жыта паклоны ёй шле.
Дружна вязальшчыцы выйшлі на працу
З сонечным днём на чале.

Во падаспела і жвавая моладзь;
Люба работа тут ёй.
Ставяць у бабкі снапы піянеры
Шчырай, руплівай сям'ёй.

Вунь і камбайн падкаціў на загоны.
Праца на полі спарней:
Жне і малоціць машына імклівa,
Цешыць працоўных людзей.

Морам жытнёвым пакрыты загоны;
Ім і канца не відно.
Бурным, няспынным, магутным патокам
Льецца у бункер зярно.

Спёка пад вечар знікае павольна;
Хіліцца сонца к зямлі.
Вее прахладаю з бліжняга лесу,
Цені ад бабак ляглі.

Дзень патухае... Вясёлыя жнеі
З поля ідуць грамадой.
Зноўку ліюцца іх дружныя песні
Ціхай вячэрняй парой.

*1949*

## МАЛАЦЬБА

Ранак пільна зірнуў
На лясы, на палі...
У калгасе даўно
Ўсе на працу пайшлі.
Вось і сонца ўзышло...
Гоман, шум на таку.
Гуд машыны ляціць
Праз гумно на раку.
Праца дружна ідзе:
Сталь звініць, гул наўкол,
Малатарня гудзе —
Аж дрыжыць пад ёй дол.
І хапае, і рве
Малатарня снапы;
Дружна іх падаюць
З высачэзнай тарпы.
Малатарня гудзе,
Гучны гул шле кругом.
А зярняты бягуць
Залатым ручайком.
На мура́ўцы гумна
Стог саломы расце;
Хлапчукі-юнакі
Адграбаюць яе.

7

**Трактар гулка гудзе**
**Над прасторам гумна.**
**Тут работа кіпіць**
**Ад цямна да цямна.**
**Дружна йдзе ў грамадзе**
**Малацьба на таку.**
**Гуд машыны ляціць**
**Праз гумно на раку.**

*1949*

# ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК

Лунаюць яркай чырванню сцягі, штандары:
Вялікае к нам свята надышло.
Злілося ўсё — сцягі, народ і промні сонца
У адно чырвона-залацістае святло.

Цябе, Вялікі наш Кастрычнік, мы вітаем;
Хай ведае аб гэтым цэлы свет.
У гарадах шумлівых і ў калгасных вёсках —
Усюды твой відаць чырвоны слаўны след.

Парваў навек ты ланцугі прыгнёту;
На ўвесь сусвет ляціць твой гучны кліч.
Для светлага жыцця працоўнага народу
Узняў цябе вялікі наш Ільіч.

Сям'ёю дружнай радасна і шчыра,
Спяваем сёння гімны сонечных вякоў,
І вестка аб жыцці, шчаслівым і свабодным,
Ляціць маланкай зыркай навакол.

Няхай жыве Вялікі наш Кастрычнік —
Шчаслівага жыцця магутны правадыр!
Няхай жа моц яго уздымным бляскам
Азорыць як хутчэй усю зямную шыр!

*1949*

7*

## ГІМН ЗМАГАННЮ

Магутным молатам змагання,
Пакуль гарацъ душы агні,
Куём мы сонечнае ранне,
Ад шчасця радасныя дні.

Краса і бляск, і сонца ззянне —
Цвітуць палі, цвітуць лугі...
То моц адвечнага змагання,
Што нішчыць путы-ланцугі.

Змаганне крышыць перашкоды;
Змаганне — вечнай змены бег;
Усё жывое ім сагрэта,
Жыццё і шчасце — ў барацьбе.

Змаганнем нішчыцца старое;
Змаганнем свет увесь сагрэт;
Яно нам — сонца залатое,
Што ажыўляе ўвесь сусвет.

Моц барацьбы мы ўсюды бачым:
Яна люд з цемры узняла,
Жыццё нам шчаснае прыдбала,
Яна Кастрычнік нам дала.

Жыццё ў змаганні — красаванне;
Ў нябыт ідуць няволя, здзек...
Дык вечна хай жыве змаганне,
Што к камунізму нас вядзе!

*1949*

## У НОВЫМ МІНСКУ

Я ў сталіцы ізноў
Сярод гмахаў-дамоў,
Што здзіўляюць красой небывалай.
Як ты пышна расцвіў,
Малады родны Мінск,
Пасля грознай фашысцкай навалы!

Сёння вуліцы тут
Будаўніцтвам шумяць,
Каляруюць будынкі ў праменнях.
Льецца радасны спеў
Пра героіку дзён,
Ўсё пульсуе тут творчым імкненнем.

Вунь тралейбус прабег,
Там трамвай прамільгнуў;
Нібы ў казцы, жыццё тут віруе.
І не спыніць ніхто
Наш магутны размах,
Бо ім партыя наша кіруе!

Камароўкай іду —
Казка-ява ізноў:
Куды ж дзеўся той лес з камарамі?

Падхапіў тут мяне
У абдым і панёс
Новы Мінск з маладымі мурамі.

Тваe паркі, сады,
Што ўзняліся наўкол,
Аздабляюць цудоўна сталіцу.
Тут заводы ўзраслі,
Новых фабрык тут шмат...
Сёння ёсць чым у нас ганарыцца.

*1955*

# ВЯЛІКАЯ ДРУЖБА

Разлілося сонца па палянах снежных,
Золатам дзівосным [redacted] лесу паплыло.
Веснавую казку сніць прастор бязмежны...
Нехта шпарка едзе [redacted] горада ў сяло.

На абліччах свежых расквітнела радасць,
Сонца узнялося, грэе лес і лог.
Хутка ўжо прыедуць; вёска госцям рада,
І мароз калючы за плятнём прылёг.

На пагорку вёска... Ў клубе і ля клуба
З ранку гоман гулкі павадкай расце...
Ветлівыя словы слухаць сэрцу люба:
Зноў калгас вітае дарагіх гасцей.

Ў клубе урачыста, і настрой узняты;
Спеў вясёлы льецца за акно ў прастор.
Сёння Дзень жанчыны, сёння ўсім нам свята:
Мы прыйшлі паслухаць гарадскіх сясцёр.

Стол прыбран абрусам, а на сцэне Ленін
Асвятляе сцэну, быццам бляск зары.
Аб жыцці аб новым веснавым струменем
Паліліся словы гарадской сястры.

— На прастор шырокі выйшла ў нас жанчына.
Аб такім прасторы тут ніхто не сніў.
Партыя дала нам і правы і волю,
Ярка асвятліла шчасцем нашы дні.

Выканалі к святу ўсе свае заданні;
Працавалі шчыра ўсе мы, як адзін.
Непарушнай дружбай моцна мы з'яднаны:
Наш завод калгасам многа даў машын.

Звеннявая Таня атрымала слова,
Узышла на сцэну, гоман хутка знік.
Цёпла ўсе сустрэлі шчырую прамову:
Таня у калгасе — лепшы працаўнік.

— Сёння, к Дню жанчыны шчасцем мы багаты;
Дружная работа узняла калгас:
Радыё гаворыць у сялянскіх хатах;
Ёсць у нас і школа, ёсць і клуб у нас.

Мы высока ўзнялі ураджай калгасны;
Пра заможнасць нашу ведаюць кругом.
У далейшай працы шлях прад намі ясны:
Мы да камунізма ўпэўнена ідзём.

Шчыра я віншую вас, жанкі, дзяўчаты,
З поспехам у працы, з урачыстым днём.
А за радасць, шчасце, што жывём багата,
Свой паклон з падзякай партыі мы шлём!

І гучаць тут песні, і цвітуць усмешкі
На бадзёрых тварах шчырых змагароў.
Сэрца ўзнята ўцехай, бо з'ядналі вёску
З горадам шумлівым дружба і любоў.

*1955*

## КАМУНІСТАМ СЛАВА!

З кожнай хвіляю магутней
Ваш кіпучы працы дзень,
Што далёка шле уздымны
Свой прамень.
У змаганні і на працы
Вы — нястомныя байцы,
Светлай будучыні, шчасця
Вы — тварцы.
Вы навекі пахавалі
Здзек, няволю і прыгон
І прынеслі краю радасць
Новых дзён.
Вы развеялі ўсю цемру,
Што сляпіла вочы нам,
І праклалі шлях шырокі
Ясным дням.
Хоць ваш шлях цяжкі і доўгі,
Ды нязломны наш развой:
Несупынна ўперад крочыць
Люд-герой,
Бо кіруе ім нястомна
Мужны, пільны правадыр,
Што змагаецца за шчасце
І за мір.

Гэты правадыр адданы —
Камуністы-змагары,
Што знішчаюць назаўсёды
Быт стары,
Што вядуць да камунізма
Гераічны наш народ,
Што моц края узнімаюць
З году ў год.
Слава мудрым камуністам,
Слава вам, будаўнікі!
Будуць услаўляць з натхненнем
Вас вякі.

*1956*

## Я ТАБЕ, БЕЛАРУСЬ, СЁННЯ ШЧЫРА ПЯЮ...

Я табе, Беларусь,
Сёння шчыра пяю,
Слаўлю песняй сваёй
Моц-заможнасць тваю.
Яву дзён маладых
Нам Кастрычнік прынёс,
Адрадзіў Беларусь,
Асвятліў яе лёс.
Дружнай працай жывуць
Тут наш горад, калгас,
Жыццё яркай зарой
Расцвітае у нас.
Новы Мінск-прыгажун
Сёння бачу ізноў.
Захапляе мяне
Спеў шматлікіх гудкоў.
Нашых фабрык гудкі
Дружным хорам гудуць,
Пра заможнасць тваю,
Родны край наш, пяюць.
Пад напевы гудкоў
Я на поле прыйшоў.
Цешыць, вабіць мяне
Шыр калгасных палёў.

Вунь ідуць трактары,
Іх ляціць гуд-прывет.
Тут камбайны і жнуць,
І малоцяць услед...
У шумлівы калгас
Я пад вечар прыйшоў,
Бачу школу і клуб,
Пышны росквіт садоў.
Хаты яркнуць наўкол
Электрычным святлом,
Словы роднай Масквы
Чуе кожны тут дом.
Ураджаі растуць
З кожным годам у нас.
Узмужнеў, расквітнеў
Узбуйнёны калгас.
Я табе, Беларусь,
Сёння шчыра пяю,
Слаўлю песняй сваёй
Моц-заможнасць тваю.

*1957*

## БРАТНЯЙ УКРАІНЕ

Ніколі не забуду час той шчасны,
Калі зычліва мне ўсміхнуўся лёс:
У сонечную братнюю Ўкраіну
Мяне ён, бы на крыллях, перанёс.

Я моцна палюбіў старонку гэту
У раннія юнацкія гады,
За прыгажосць яе дзівосных песень,
Што поўняць сэрца радасцю заўжды.

Я палюбіў цябе, край украінскі,
За слодыч музыкі бандур тваіх,
За хараство паэзіі Шаўчэнкі,
Што цешыць і старых і маладых.

Люблю красу садоў тваіх шматлікіх,
Калі прыбраны ў бель яны вясной,
Твае мне любы месячныя ночы
І яснасць зор, што свецяць над табой.

Люблю прастор тваёй зямлі ўрадлівай,
Імклівы бег магутнага Дняпра
І мілагучнасць мовы украінскай,
Што мне гучыць званчэй ад серабра.

Я не забуду гэты край цудоўны,
Што аздабляў тут век мой малады;
Мне не забыць сяброў, адданых, шчырых,
Якіх тут меў у раннія гады!

Я ў думках і сягоння на Ўкраіне,
З братамі украінскімі ізноў.
Дзень гэты радасцю маёй квітнее,
А ў сэрцы зноўку ўспыхнула, гарыць любоў.

Мая любоў — да светлай Украіны,
Што абудзіла мне ўспамінаў рой
Аб незабыўных днях майго юнацтва,
Што праплыло ў краіне дарагой.

Ніколі не забуду час той шчасны,
Калі зычліва мне ўсміхнуўся лёс:
У сонечную братнюю Ўкраіну.
Мяне ён, бы на крыллях, перанёс.

*1960*

## НЕ СТРЫМАЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ НАС СЯГОННЯ!..

Не стрымаць, не спыніць нас сягоння
Ў нашай дружнай і радаснай працы!
Ўсё шырэй засяваем мы гоні:
Свайго часу мы марна не трацім.

Камсамол, смялей уперад!
Мы шчыльней самкнём рады,
Свет увесь хай бачыць поступ
Камсамольскай грамады!

З імем Леніна ў сэрцах арліных
Новы быт мы будуем у краі,
К камунізму ідзём мы няспынна,—
Наша партыя шлях вызначае.

Нашы сэрцы да Радзімы.
Шчырай любасцю гарацъ,
Нас натхняе, акрыляе
Камуністаў слаўных рацъ.

Мы ўзмацняем магутнасць Айчыны,
Гмахі ўзводзім на месцы руінаў,
Цаліну мы ўзнімаем імкліва,
Каб квітнела заможнасць краіны.

8

**Камсамол, смялей уперад!**
**Мы шчыльней самкнём рады,**
**Свет увесь хай бачыць поступ**
**Камсамольскай грамады!**

*1961*

# III

## *Вершы для дзяцей*

### ДЗЕД МАРОЗ

У вопратцы белай
Шырокай, даўгой
З вялікай пушыстай
Мятлой-барадой

Прыйшоў к нам здалёку
Дзядуля Мароз,
Завеі і холад
З сабою прынёс.

У бель апранае
Ён дрэвы, кусты,
На рэчках, азёрах
Будуе масты.

Па вуліцы ходзіць
Ды снегам хрушчыць,
Вятры з сабой водзіць,
У дрэвах трашчыць.

Ён грукае ў сцены
І хат і сяней
Ды галасам гулкім
Склікае дзяцей:

«Выходзьце, рабяты!
Час ладзіць каток.
Дык жыва ж за працу,
Шумлівы гурток!»

*1921*

## У ЗІМОВЫ ВЕЧАР

Маці адвячоркам
Села ля акна:
Хоча дзецям казку
Расказаць яна.

Каля роднай мамкі
Селі мы ў радок.
Нам прытульна, добра,
Цёплы наш куток.

Завіруха вые
Ў цемрадзі пустой.
Палілася казка
Хваляй залатой

Пра таго асілка,
Што павёў народ,
Каб прагнаць з краіны
Ўвесь варожы род.

Слухаем уважна
Мы матульчын сказ.
Шпарка пралятае
Наш вячэрні час.

Роем нашы думкі
Хуценька плывуць
Ўдаль, за акіяны,
Ў небяспечны пуць.

Хай завеі ў полі,
Хай і сівер там,—
Тут, у цёплай хаце,
Добра з маткай нам.

*1921*

## КОЦІК

*(Паводле народнай песні)*

Хлопчык любіць коціка,
Лашчыць ён варкоціка,—
Коцік міл яму.
З ім на двор гуляць ідзе,
Часта малачка дае
Ён сябру свайму.
Ходзіць коцік беленькі,
Хвосцік яго шэранькі,
А бяжыць — стралой.
К хлопцу прытуляецца,
Спінкай выгінаецца,
Хвост яго — дугой.
Як убачыць птушачку,
Хутка шчабятушачку
Хоча ён схапіць:
Вочкі разгараюцца,
Кіпці выпускаюцца,
Ён за ёй бяжыць.
Поўсць яго пушыстая,
Беленькая, чыстая,
Мяккая, як лён.
Мышкі, сцеражыцеся,
Ціха!.. беражыцеся!
Уміг вас зловіць ён.

*1921*

## НАПРАДВЕСНІ

Годзе, сняжыначкі,
Сыпацца з неба!
Цёплага сонца
Чакае ўжо глеба.
Мы нагуляліся
З вамі уволю,
Баб наляпілі
Са снегу даволі.
Хутка растопяць вас
Сонца праменні;
Рэк, ручаёў
Мы пачуем бурленне.
Удосталь нап'ецца
Матуля-зямліца
Свежай, сцюдзёнай
Вясенняй вадзіцы.
Скора пальюцца
Вясёлыя песні
Жаўранкаў звонкіх
У нас напрадвесні.
Дружна пасадзім
Там розныя дрэвы;
Ў садзе зазвоняць
Вясёлыя спевы.

*1922*

## ШПАК

Зніклі завірухі,
К нам вясна прыйшла;
Веснавое сонца
Многа шле цяпла.
    Сёння раніцою
    Прыляцеў к нам шпак,
    Сеў ён на бярозцы
    І спявае так:
«Выхадзіце, дзеці,
Сустракаць вясну!
Ўстала ўжо прырода
З зімовага сну.
    На лугу ўжо скора
    Кветкі зацвітуць,
    А над імі пчолкі
    Звонка загудуць».
Шлюць шпаку рабяты
Дружны свой адказ:
«Шчыра мы вітаем
Твой зварот да нас!
    На бярозе стройнай
    Для цябе, дружок,
    Мы даўно зрабілі
    Новенькі дамок».

*1922*

## ПЧОЛКА

Веснавое сонца
Росы падбірае.
Вылецела ў поле
Пчолка залатая.
    Ёй за шчырай працай
    Весела на полі:
    Луг прыбраны ў кветкі
    І наўкол раздолле.
З рання да змяркання
Пчолка залатая
Лётае па кветках
Ды мядок збірае.
    Шмат сабрала пчолка
    Мёду з розных кветак,—
    Дома ім пакорміць
    Родных пчолак-дзетак.
У вуллі работа
Цэлы дзень кіпела.
Вечарам з дабычай
Пчолка прыляцела.

*1922*

## ДЗЯЎЧЫНКА І КВЕТКІ

Кветачкі сінія,
Як май, прыгожыя
    Вясной раджаліся,
    Ў расе купаліся.
Усходзіць сонейка,
Заходзіць сонейка —
    Пялёсткі сінія
    Расою іскрацца.
Во пчолка звонкая
Хінецца к венчыку;
    Ўвесь дзень праменісты
    Збірае мёд яна.
Вось матылёк мільгнуў
Сняжынкай белаю;
    Яму тут весела
    У ззянні сонечным.
Прыйшла дзяўчынка ў луг,
Прыйшла маленькая,
    Нарвала кветак шмат
    Рукой руплівая.
Яна сплялa сабе
Вянок прыгожанькі,
    Пайшла па полі з ім
    З вясёлай песняю:

«Кветачкі сінія,
Як май, прыгожыя
    Вясной раджаліся,
    Ў расе купаліся...»

*1923*

## ЛЕТАМ

Скончана вучоба,
Заяснела лета;
Шчыра і старанна
Ім зямля сагрэта.
Свежы летні ранак
Яркім сонцам свеціць...
Сёння ў лес любімы
Пойдзем з вамі, дзеці,
Многа знойдзем ягад
Там паміж кустамі.
Зашуміць лагодна
Лісце дрэў над намі.
Там булькоча ціха
Рэчка на прасторы.
Запяём мы ў лесе
Песню дружным хорам.
Будуць пець вясёла
Разам з намі птушкі;
З намі загамоняць
І жучкі і мушкі.

*1923*

## ЗАЖУРЫЎСЯ ЛЕС ШУМЛІВЫ...

Зажурыўся лес шумлівы,
Дрэвы жаласна шумяць.
На галінках, на сучочках
Зоркі-кропелькі вісяць.

Не шчабечуць ужо болей
Птушкі звонкія ў палях,
І не лётаюць вясёла
Матылёчкі на лугах.

Няма кветачак у полі,
Не красуе васілёк,
І не зззяе пазалотай
Поле жытняе здалёк...

Не журыцеся вы, дзеткі,
Зноў к нам вернецца вясна,
Зноў цяпло, святло і кветкі
Прынясе з сабой яна.

*1923*

## ПЕРШЫЯ СНЯЖЫНКІ

Лётаюць, сыплюцца
Зоркі-сняжынкі —
Белыя, лёгкія,
Быццам пушынкі.

Роўна так сцелюцца
Ў вёсцы і ў полі,
Круцяцца, кружацца
Ціха, паволі.

Дзецям тут весела,
Хоць і марозна:
Цёпла за гульнямі,
Зімка не грозна.

Шумна забегаем
Тут удагонкі,
Гулка пакоціцца
Голас наш звонкі.

Жыва праложым тут
Новыя сцежкі,
Дружна наладзім мы
Гульні у снежкі.

**Лётаюць, сыплюцца**
**Снежныя зоркі...**
**Будзем на саначках**
**Ездзіць мы з горкі.**

*1935*

## ПАСТУШОК

Сонца толькі што ўзышло,
Шле наўкол сваё святло.
Над палямі птушак хор:
Спевам поўніцца прастор.
Абуджаецца калгас,
Каб паспець на працу ў час.
Выйшаў з хаты пастушок
І зайграў ён у ражок:
«Тру-гу-гу-гу, тру-гу-гу!..
Добра будзе на лугу
Сёння статку пагуляць,
Роснай траўкі пашчыпаць».
І кароўкі ўміг яму
Адказалі: «Му-му-му!..
Будзем цэлы дзень гуляць,
Траўку смачную шчыпаць.
Там рачулка ўдаль бяжыць;
Мы ваду ў ёй будзем піць.
А як скончыцца дзянёк,
Сонца сядзе за лясок,—
У калгас мы вечарком
Прыйдзем з смачным малаком».

*1922—1936*

## НАША ЁЛКА

У школьным клубе ёлка
Прыбраная стаіць:
Красою пышнай вабіць,
Уся аж зіхаціць.
Высока на галінцы
Вавёрачка сядзіць,
Трымае ў лапках шышку,
Што золатам блішчыць.
Спыніўся каля ёлкі
Калматы звер-мядзведзь,
Нібы на сонцы хоча
Сваю спіну пагрэць.
Вунь заяц палахлівы
Пад ёлачку бяжыць,
А хітрая лісіца
Услед яму глядзіць.
Прыгожыя тут птушкі
І рыбкі мільгацяць,
І грушы, і цукеркі,
І яблыкі вісяць.
З галінак парашуты
Спускаюцца на дол,
А вунь і самалёты
Ўзляцелі аж пад столь.

Развесістая ёлка
Красою зіхаціць,
А ў самым версе зорка
Чырвоная гарыць.

*1938*

## ЗІМОЙ

Люблю я прасторы
Зімовай парой,
Як ззяе дзень ясны
Дзівоснай красой.

Тут снег на палянах
Бліпічыць весялей,
А шчокі ірдзеюць
За кветкі ярчэй.

Вось цягнуцца [illegible] лесу
З дрывамі вазы;
Па гладзі бліскучай
Скрыпяць палазы.

На санках, лядзянках —
Грамадка дзяцей.
Іх радасць сягоння
За сонца святлей.

А вунь і на лыжах,
Бы тыя ганцы,
Па гладкай паляне
Імчацца хлапцы.

Пад снежнаю коўдрай
Спяць руні палёў,
Што ў маі купчаста
Узнімуцца зноў.

*1939*

## ВАВЁРКА

Я рухавы звярок,
Заўжды весела мне.
Мая хатка — дупло
На высокай сасне.

Я на дубе нарву
Шмат буйных жалудоў
І к зімовай пары
Прынясу іх дамоў.

На галінках сасны
Я грыбоў насушу,
Іх багата к зіме
У свой дом нанашу.

Я рухавы звярок,
Шмат арэхаў знайду,
Самых лепшых нарву
І ў дупло накладу.

Не баюся зімой
Я марозаў ліхіх:
Спачываю ў дупле
На лісточках сухіх.

**А як сонца зірне,**
**Я скачу па сасне.**
**Цёпла ў шубе маёй**
**І суровай зімой.**

*1940*

## МЯДЗВЕДЗЬ

Прыйшла з вятрамі восень,
Шуміць высокі лес.
Пайшоў мядзведзь па лесе,
Далёка ў глуш залез.

Пад елкай вырыў яму,
Паслаў у ёй галлё,—
І ўжо ў яго гатова
Зімовае жыллё.

А каб мароз траскучы
Не ўлез к яму зімой,
Наклаў галля над новай
Бярлогаю сваёй.

Вось мішка ўжо ў бярлозе,
Утульна тут яму.
Паправіў ён галінкі,
Залёг на ўсю зіму.

Прыйшла зіма з марозам,
Заснуў і лес і бор.
Завеі заспявалі
На ўвесь лясны прастор.

А мішка і не дбае:
Яго спакойны сон.
Ён спіць на мяккім вецці
Аж да вясенніх дзён.

А як вясна сагрэла
Лясы, палі, сады,—
Мядзведзь з бярлогі выйшаў
Шукаць сабе яды.

*1940*

## ЛАСТАЎКІ

У пуні калгаснай,
Дзе сена складалі,
Дзве ластаўкі месца
Сабе выбіралі.
А выбраўшы месца,
Гняздзечка ляпілі,
У дзюбачках гліну,
Саломку насілі.
Пушынкі і пер'е
Няслі ў сваю хатку,
Каб мякка і цёпла
Было птушаняткам.
Настаў адпачынак,
Пявунні прыселі,
Вясёлую песеньку
Гучна запелі.
З іх шчырай работы
Дзівіліся людзі:
«Утульная хатка
Тут ластаўкам будзе!»
Закончана праца,
Гатова гняздзечка;
З'явіліся скора
Ў гняздзечку яечкі.

І ластаўка-мамка
На яйках сядзела,
Дзень кожны і ноччу
Рупліва іх грэла.
Прыйшоў дзень шчаслівы
Для птушак у пуні,
Вялікай уцехі
Прыждалі пявунні:
У цёплым гняздзечку
Заціўкалі дзеткі,
І мушак прасілі
Сабе малалеткі.
І ластаўкі часта
Ім ежу насілі
І свежай вадою
Старанна паілі.
Прыйшоў час — і ластаўкі
Дзетак-пястушак
Вучылі ўжо лётаць,
Лавіць сабе мушак.
Вось выраслі дзеткі,
За лета ўзмацнелі,
Пад восень у вырай
Яны паляцелі.

*1922—1949*

## ЗМЕСТ

III

## ВЕРШЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Журба Я.**

Ж 91 Роднае: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 144 с., іл. (Б-ка беларус. паэзіі).

У пер.: 55 к.

У зборнік увайшлі лепшыя лірычныя творы з паэтычнай спадчыны Янкі Журбы — паэта, які больш паўстагоддзя працаваў на ніве роднай літаратуры.

Ж $\frac{70403-222}{М 302(05)-80}$ 123-81

ББК 84 Бел 7

Бел 2

Янка Журба. (Иван Яковлевич Ивашин). Родное. Лирика. Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке.

Рэдактары Хв. Д. Жычка, П. М. Макаль. Франтысціс Л. В. Чурко. Афармленне В. С. Юрчанкі. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 966

Здадзена ў набор 03.06.80. Падп. да друку 10.11.80. АТ 05264. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,50. Ул.-выд. арк. 3,63. Тыраж 4000 экз. Зак. 728. Цана 55 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.